© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 33 (598) ГОД XII 13 ЖНІЎНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.





АЛЕСЬ СТАВЕР

## Індыйская легенда

З краёў палынных, дзе жывуць індусы
Прыйшла гэта легенда к беларусам.
Я учуў яе ад мудрацоў вясковых
І запісаў, як чуў я, — слова ў слова.
У аднаго індуса — селяніна
Была дачка — найкрашчая дзяўчына.
Павеўны стан, — ідзе, — нямеюць далі,
Вішнёвым сокам вусны палыхалі,
Як слівы ў жнівень, маладыя вочы,
А валасы — цямней асенняй ночы...
Чатыры хлопцы, малайцы чатыры,
Красу — дзяўчыну пакахалі шчыра.
Учатырох к ёй кожны дзень хадзілі...
Яе рукі нарэшце папрасілі.
Яна не знала, як абраць якога...
Пайшлі яны да бацькі, як да бога.
— Ну, што ж, сынкі... — сказаў ён, — я вам рады.
Ды толькі даць вам не магу парады.
Дачку ўзрасціў я. Ёй — дай божа — дваццаць.
Яна сама павінна разабрацца.
Панiклі хлопцы. Зноў пайшлі дадому...
У кожнага з іх лёс быў невядомы.
З іх кожны думаў пра яе заўсёды.
Чакаў з іх кожны ад каханай згоды.
І раптам ім няшчасце прываліла, —
Змяя дзяўчыну-кветку укусіла,
Памерла кветка. Па індыйскай звычцы, —
Яна згарэць павінна, нібы знічка.
Адзін хлапец, — як жыць далей, — не ведаў,
І кінуўся ў агонь за ёю следам.
Другі — і жалю і пяшчоты поўны —
Стаяць застаўся ля агню вартоўным.
Не вынес гора закаханы трэці, —
Пайшоў блукаць па белым свеце.
Чацверты бачыў гэтыя праявы, —
Застаўся дома і заняўся справай.
Ішлі гады, нібыта коні ў путах,
О як ад іх стары індус пакутваў...
Няма дачкі. Няма яе каханых.
Ён на вачах людзей марнеў і вянуў...
Ды неяк раз прыйшоў дадому трэці,
Той, што блукаў адзін па белым свеце.
Прынёс з сабою ён такой вадзіцы,
З якой і мёртвы можа ажывіцца.
Лінуў на попел ён вады чароўнай, —
І — уваскрэсла любая раптоўна.
З ёй уваскрэс хлапец у поўнай сіле,
Што без каханай жыць не мог ні хвілі.
І зноў хлапцы ўсе, малайцы чатыры,
Пайшлі з ёй к бацьку за парадай шчырай.
Пытаннем кожным быў заняты дасужа, —
Хто будзе з іх дзяўчыны-кветкі мужам.
Стары адкрыў ім дзверы ў хату насцеж,
Абняў дачку і зарыдаў ад шчасця.
Затым хусцінкай выцер вочы суха,
Сказаў: — Цяпер прашу мяне паслухаць.
Пачуць такое юнакам не шкодзіць...
Той, што ўваскрэс, хай больш сюды не ходзіць.
Ён паступіў адважна і прыгожа, —
Ён — брат яе, ён мужам быць не можа.
Другі таксама хай з ёй жыць не марыць,
Ён — раб жанчын, маёй дачцы — не пара.
Хай знікне трэці, хоць ён смерць адужыў, —
Вандроўнік ён, ён быць не можа мужам.
Чацверты жыў і працаваў, як людзі,
Чацверты толькі маім зяцем будзе.





Белавежа. Старыя дубы ў парку. Фота Г. Рагазінскі




...Яна ідзе па Сацыялістычнай побач маіх вокан. Я ведаю: зараз яе невысокая худзенькая фігурка схаваецца вось у гэтым пад'ездзе. Гэта — праз два дамы. Я часта сустракаю яе, вяртаючыся па вечарах з рэдакцыі. І кожны раз мяне здзіўляюць яе вялікія, незвычайна выразныя вочы.

Яны асвятляюць твар гэтай ужо даўно немаладой жанчыны нейкім унутраным светам. Такія вочы могуць быць толькі ў чалавека, жыццё якога прайшло ў барацьбе.

Так, такім і было яно ў Зінаіды Ульянаўны Клейф.

...Гэта былі гады тэрору, калі яна толькі што ўступіла ў Камуністычную партыю Заходняй Беларусі. 24-ты год. У гэтым годзе ў Беластоку і Сувалках можна было бачыць тоненькую, зграбную «паненку». Горда адкінуўшы галаву, яна імчалася ў возчыцкай брычцы на вакзал, уваходзіла з сакваяжам у вагон. Ёй спяшаліся зрабіць паслугу шляхціцы з вытанчанымі манерамі, бліскучыя афіцэры:

— Дазвольце, панна, — падхоплівалі яе сакваяж.

І вось яна ўжо ў купэ, на выгляд такая бесклапотная. Здаецца і воблачка няма на яе жыццёвым небасхіле. А гэтая дзяўчына ўжо пабывала ў катавальні Беластоцкай дэфензівы.

Праўда, усяго некалькі дзён. Але і гэтага было дастаткова, каб убачыць сапраўдны твар сваіх ідэйных ворагаў.

Знясільваючыя допыты, здзекі — усё вынесла маладая рэвалюцыянерка. Зато з якім задавальненнем, заплюшчыўшы вочы, зноў і зноў чула свой голас, які падобны да звана, клікаў на забастоўку ткачых:

— Кідай працу, сёстры!

І зараз, толькі вызваліўшыся з-пад следства, зноў ехала яна па заданню сваёй партыі. У сакваяжы — звычайны груз — лістоўкі, надрукаваныя ў падполлі. Кіраўніцтва падполля пераканалася, што гэтая цёмнавалосая дзяўчына — стойкі змагар. Ёй даручаюць адказную працу — яна кур'ер цэнтральнай партыйнай тэхнікі: развозіць палітычную літаратуру, дакументы.

(Працяг на стар. 5)

# БГКТ

### ПАРТЫЙНАЯ АЦЭНКА ДЗЕЙНАСЦІ НАШЫХ АДДЗЕЛАЎ

Дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства выклікае штораз большае зацікаўленне партыйных інстанцый.

У Гайнаўцы 13 ліпеня г.г. экзекутыва ПК ПАРП у прысутнасці кіраўніка адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП тав. Ул. Канстанчука, кіраўніка культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ тав. М. Лобача, старшыні Гайнаўскага аддзела БГКТ тав. А. Іванюка разглядала працу аддзела БГКТ.

Дыскутавалася шырока над дасягненнямі і цяжкасцямі ў працы БГКТ.

Асаблівая ўвага была звернута на пашырэнне дзейнасці БГКТ у прамысловых прадпрыемствах Гайнаўкі.

Члены экзекутывы станоўча і прыхільна ацанілі дзейнасць Беларускага таварыства. З мэтай павышэння эфектыўнасці працы БГКТ вырашана апрацаваць канкрэтныя прапановы, якія будуць зацверджаны наступнай экзекутывай. (мл)

*

20 ліпеня гэтага года адбылося пасяджэнне экзекутывы Гарадскога Камітэта ПАРП у Беластоку, на якім ацэньвалася праца нацыянальнаменшасных таварыстваў у горадзе Беластоку. У пасяджэнні экзекутывы прынялі ўдзел прадстаўнікі Беларускага і Рускага таварыстваў.

Як вынікала са справаздач і дыскусіі прысутных, аддзелы гэтых таварыстваў развіваюць шырокую культурную дзейнасць. Асабліва станоўча падкрэслівалася праца гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, якім кіруе Кастусь Масальскі.

Адначасова на прапанову прадстаўнікоў нашага таварыства былі прадыскутаваны праблемы далейшага заспакаення культурна-асветных патрэб беларускай нацыянальнай меншасці ў горадзе, як увядзенне ў рэпертуар аматарскіх калектываў беларускіх песень і танцаў, арганізаванне ў клубах горада куткоў беларускай кніжкі, фотавыставак, папаўненне бібліятэк беларускімі кніжкамі, падпіска «Нівы».

Закранута была справа стварэння ў шматнацыянальным Беластоку Дома Дружбы Народаў. (ую)

### ФЕСТЫН БГКТ

25 ліпеня Бельскі аддзел БГКТ арганізаваў над Нарвай каля Войшак фестын, прысвечаны 50-ай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і 23-яй гадавіне аб'яўлення маніфеста ПКВН.

На фестын прыбылі прадстаўнікі павятовых улад і ГП БГКТ. Нашая ўрачыстасць, прысвечаная дзвюм знамянальным датам, не з'яўляецца выпадковай. Дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі Польшча двойчы атрымала незалежнасць — сцвердзіў ва ўступным слове кіраўнік прапаганды Павятовага Камітэта ПАРП у Бельску А. Храноўскі.

Удзельнікі фестыну — насельніцтва навакольных вёсак і адпачываючыя ў Войшках з цікаўнасцю аглядалі выступленне хору БГКТ з Бельска і хору з Боцек. Пасля мастацкай часткі адбыліся спартыўныя гульні: валейбол, веларонка і гонкі на байдарках.

МЛ

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



Група гродзенскіх камсамольцаў у лагеры на Пульку.

**БРАТЫ-СУСЕДЗІ**

# У ЛАГЕРЫ ДРУЖБЫ І РАМАНТЫКІ

Рэпарцёр «Нівы» наведаў Пулька, што над рэчкаю Супрасль. Гэты візіт быў не проста наведаннем месца, дзе адпачывае ў вольны час многа беластачан. Мэтай наведання быў гарцэрскі лагер Гуфца ЗГП Беласток-павет, які ад некалькі год тут разбівае свае палаткі. Сёлета лагер незвычайны: у госці да беластоцкіх гарцэраў прыехалі на адпачынак сябры-суседзі — камсамольцы з гродзенскай вобласці.

Ля ўвахода ў лагер гарцэр-вартавы з маладзёжнай службы руху. Зараз прадстаўляе нас каменданту лагера **Зосі Фалькоўскай,** без дазволу якой ніхто чужы не мае права ўваходзіць на тэрыторыю лагера. У лагеры цішыня, толькі каля некаторых палатак увіваюцца гарцэры з гаспадарчай дружыны.

— А дзе вашыя гарцэры? — пытаюся ў Зосі.

— Крышку вы спазніліся. Зараз усе выйшлі ў лес на акцыю «Залатое руно». Вернуцца аж на абед.

— А дзе можна сустрэць вашых гасцей?

— Яны таксама рэалізуюць акцыю «Залатое руно». Асталіся толькі дзве дзяўчынкі — дзяжурнымі. Яны на кухні.

— Як укладаецца сужыццё?

— На гэтае пытанне не ўмею адказаць, таму што ў нас такая праблема не існуе. Вам як журналісту раю застацца і паназіраць. Магу сказаць як мы іх прынялі. Проста гродзенскія камсамольцы з'яўляюцца ў нас нармальнаю IV-таю дружынаю. Рэалізуюць усе праграмныя заняткі, прадбачаныя намі, з тым, што дружыновай у іх **Людміла Мікуловіч** — студэнтка Гродзенскага медыцынскага інстытута. А сустрэць нам хацелася іх як найлепш. Адным словам, на адкрыцці быў між іншым І сакратар Павятовага Камітэта ПАРП у Беластоку **Аляксандр Камінскі,** які вельмі цёпла павітаў гасцей і ўручыў ім гарцэрскія мундзіры. Так што цяпер іх цяжка адрозніць ад нашых гарцэраў.

Паколькі не было ў час нашага наведання тых, каго мы хацелі сустрэць, трэба было прыехаць яшчэ раз. Дагаварыліся на пасляабеднюю пару. Фактычна прыбылі ў перадвячэрні час. Якраз удзельнікі лагера рыхтаваліся да аднаго з прыямнейшых пунктаў парадку дня — вячэры. Але перад гэтым неабходна памыцца. Над рэчкаю Супрасль сустрэлі мы ўсіх і камсамольцаў і гарцэраў як старанна, пасля «Залатога руна», абмывалі рукі. Пасля вячэрняга туалету каманда: «Станавіся!» І ўсе ідуць на вячэру.

Толькі пасля вячэры я змог перакінуцца некалькімі словамі з **Людмілай Мікуловіч.** Яна сказала:

— Тут нас 15 камсамольцаў, вучняў у асноўным 9—10 класаў са школ Гродзеншчыны. Гэта самыя лепшыя вучні нашых школ. Хачу сказаць, што нас тут вельмі цёпла прынялі, за што мы нашым беластоцкім сябрам вельмі, вельмі ўдзячны. Праграма пабыўкі нашых камсамольцаў багатая. Мы пабывалі на экскурсіі ў Варшаве, праводзілі спартакіяду ў Супраслі, наведалі Дзіцячы дом і, безумоўна, горад Беласток.

— Якія ўражанні аб нашых гарцэрскіх лагерах?

— Мне асабіста вельмі падабаецца, так падабаецца, што аж не хочацца думаць, што хутка трэба развітацца. Шчыра кажучы, у параўнанні з нашымі лагерамі, тут больш рамантыкі.

**Вера Лапіна —** завуч адной са школ Гродна. Яна з'яўляецца кіраўніком 30-асабовай дэлегацыі камсамольцаў (15 было ў лагеры ЗГП у Зялёнай) сказала:

— Напішыце, што сустрэлі нас цудоўна і што нам тут вельмі, вельмі добра.

З палаткі камсамольцаў чуваць песня «Мальчишки, мальчишки...» Заглядаю. Хлопцы адпачываюць.

— Адчуваем сябе вельмі добра, але цікава, як спадабаецца вашым гарцэрам у нашым лагеры ў Грандзічах, які носіць імя Гагарына. Думаем, што нашыя сябры іх таксама цёпла прынялі.

* * *

Гарцэрская арганізацыя зрабіла абмен. Трыццаць вучняў Гродзеншчыны прыехала ў лагеры Беласточчыны, а беластоцкія гарцэры пабывалі ў гродзенскіх лагерах. Ці не карысным было б расшырыць гэты абмен у наступныя гады? Гэта ж надта павучальнае, эмацыянальнае і карыснае.

**А. Карпюк**
фота аўтара

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

## Кіраванне развіццём нацыі

28 нумар тыднёвіка «Polityka» ад 15.VII.1967 г. змяшчае артыкул Ежы Клера пад загалоўкам: «Naród, któremu dano dobrobyt». У артыкуле гаворыцца аб развіцці азіяцкай рэспублікі Кіргізіі за гады савецкай улады. Да рэвалюцыі амаль зусім не было тут гарадоў, а тэрыторыю засялялі качуючыя кіргізскія плямёны.

Аўтар сцвярджае, што ў Кіргізіі зрэалізаваны быў у вялікім маштабе эксперымент кіравання развіццём нацыі звонку. Развіццё гэтае, на думку аўтара, было б немагчымым без разбурэння плямённа-радавой традыцыі. Адбылося гэта праз перамяшанне нацый. Зараз не толькі гарады, але і амаль усе калгасы Кіргізіі маюць шматнацыянальны характар. Кіргізскае насельніцтва складае зараз 40,5 прац. насельніцтва рэспублікі, другое месца займаюць рускія — 30,2 прац.

У заключэнні артыкула аўтар падае лікі ілюструючыя ўзрост вучоных кіргізскага паходжання ў навуковых установах рэспублікі. Вось яны: у 1960 годзе кіргізскіх вучоных было 24 прац., у 1963 — 28 прац., у 1966 — звыш 30 прац.

(п)

РАЗМОВЫ АБ КУЛЬТУРНЫМ ЖЫЦЦІ

Рэдакцыйная сяброўка Яся (што інакш Зоркай завецца), пстрыкнула сваім неадлучным фотаапаратам — і выйшлі мае размоўцы — дзве мілыя дзяўчыны з Будаў. Стаяць на здымку ў акне свайго клуба.

Наша гаворка будзе таксама аб клубе ГС у Будах сярод Белавежскай пушчы.

Кіраўнічка клуба — **Ірэна Камарэўская** (на здымку злева). Тая другая — сястра Іркі і яе няплатная памочніца — **Галя Смагла.**

— Клуб арганізаваў вам ГС у Белавежы. Калі гэта было?

— У снежні 1964 года. А тэлевізар у клуб купіла ГРН у Белавежы.

— І як, змянілася што?..

— Калісь збіраліся каля платоў, цяпер у клубе. Вядуцца тут размовы аб фільмах, бо такія раз у месяц высвятляюцца, аб тэлевізійных перадачах. Хто іграе ў шашкі, шахматы.

— А нейкія большыя імпрэзы?

— Арганізуем вечарыны з танцамі.

— Хто гэта «мы арганізуем?»




— Гэта значыць, рада клуба. Яна займаецца парадкам.

— Ці старэйшыя прыходзяць?

— Вельмі многа. Пагаварыць. Глядзяць, як гуляюць іх дочкі, як захоўваюцца, хто лепш адзеты.

— А ваша рада клуба, вы ўспомнілі пра яе, хто ўваходзіць у яе склад?

— **Юзэф Баяр,** старшыня наш, солтыс, чалавек каля 60-ці. **Юзэф Савіцкі,** намеснік яго, старшыня гуртка ЗМВ у вёсцы. **Ануфрый Валадкевіч** — сакратар, таксама са старэйшых, прадстаўнік ПОП. Членамі з'яўляюцца **Уладзімір Немцуновіч, Міхал Смактуновіч** — абодва з ПОП, і я, — дадае Ірка, — з ЗМВ.

— Вы, Ірэна, вядзеце гэты клуб ад пачатку. Якая ваша думка: ці ў Будах, у такой вёсцы, клуб такі патрэбен?

— Абсалютна так!

Тут у нашу размову ўмешваецца жвавая **Галя Смага:**

— Як Ірка выязджае хоць на пару дзён, то моладзь лазіць як блудная. «Што будзе, — гавораць, — Ірка паехала». Клуб тады закрыты.

— А Ірка куды выязджае, калі не сакрэт?

— Яна завочна вучыцца ў эканамічным тэхнікуме ў Элку...



— А многа жанчын горнецца да вашага клуба?

— Многа замужніх. Вельмі актыўная наша кіруючая гуртком вясковых гаспадынь **Яніна Шумарская.** Таксама **Алёйза Камарэўская, Марыя Шумарская, Анна Валадкевіч, Леакадзія Сарноцкая.**

— А хлопцы?

— Тры браты Савіцкія: Юзэк, Тадзік, Богдан. Некаторыя працуюць у Белавежы, Гайнаўцы, Беластоку нават, але на нядзелю з'язджаюцца сюды.

У клуб людзі сыходзяцца пад вечар, а зараз дзесь там кожны на сваім месцы працы куе лёс.

Радаснай усмешкаю ў акне клуба развітваюцца з намі дзве яго гаспадыні — Ірка і Галя.

**Вера Леўчук**
фота: **Яніна Чэрнякевіч**



**ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС**

### ХТО ШТО СКАЗАЎ?

**ІРЫНА ШЫМЧУК,** Бельск, вуч., 16. год.

Прачытала:
**«Адплата»** Я. Коласа.
**«На прасторах жыцця»** Я. Коласа.
**«На ростанях»** Я. Коласа.

«Многа пісьменнікі напісалі кніжак аб вайне. Але паэма «Адплата» вельмі пераканаўча гаворыць нам аб тых жа справах ваенных, якіх мы ўжо не памятаем. Яна з'яўляецца дакументам геройства беларускага народа, а маладое пакаленне не павінна аб гэтым забыць».

**МІКАЛАЙ БУСЛОВІЧ**
Аўгустова, Бельскі павет, вучань, 16 год.

Прачытаў:
**«Сымон Музыка»** Я. Коласа.
**«На ростанях»** Я. Коласа
**«Ірына»** М. Лынькова.

«Асабліва падабаецца мне паэма Коласа «Сымон Музыка», у якой паказаў аўтар лёс народных талентаў у капіталістычным грамадстве. Сымон — малады хлапец, яшчэ дзіця, з вялікімі цяжкасцямі мусіць прабіваць сабе дарогу ў жыцці. Усюды яго зневажаюць, не даюць развівацца яго таленту, хочуць уцягнуць на службу для капіталістаў. Але Сымон астаецца верны народу, з якога выйшаў, уцякае з замку і ідзе будзіць народ да рэвалюцыі».

**ЛІДА ВАЎРЭШУК**
Чыжы, Гайнаўскі павет,
14 год, вучаніца.

Прачытала:
**«Курган»** Я. Купалы
**«Міколка-паравоз»** М. Лынькова
**«Палескія рабінзоны»** Я. Маўра.

«Выбраныя творы мне вельмі падабаліся. Я тут убачыла сапраўднага героя, якім быў Міколка. Ён ваяваў з немцамі. «Палескія рабінзоны» — тут героямі з'яўляюцца таксама два хлопчыкі, якія выдалі бандытаў у рукі ўлады. Я хацела б быць такім героем. Тыя хлопцы з кніжак былі адважнымі».

**НАДЗЕЯ ЗЯЛІНКА**
Сухавольцы, Гайнаўскі павет.
37 год, гаспадыня.

Прачытала:
**«Адплата»** Я. Коласа.
**«Векапомныя дні»** М. Лынькова.
**«Сын Парашчанскага палка»** М. Танка.

«Выбраныя мною творы вельмі мне падабаліся. Аўтары ў іх адлюстроўваюць подзвігі партызан, паказваюць нялюдскія здзекі фашыстаў над беларускім народам. З гэтых кніжак мы даведваемся аб цяжкай працы партызан, якія стаялі ў абароне народа».



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# НА ГАЙНАЎСКІМ БАСЕЙНЕ

ФОТАРЭПАРТАЖ ЯНКІ ЦЯЛУШЭЦКАГА


Канікулы, канікулы...


На сонцы добра адпачываць і загараць.


А можна загарэць і так.


Дзявочым марам няма і тут спакою.




# ЗУБРЫ

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

У Вялікую Айчынную вайну адзін час я быў у дэсантнікаў, якія стаялі ў Гута-Міхалінскім лесе. Зімой да нас у Гуту прыбыў з партызанскай брыгадай імя Каліноўскага капітан Вайцяхоўскі — тонкі псіхолаг і абаяльны чалавек. Разам з капітанам прыбыла і яго слава. Абаяльнасці адважнага камандзіра паддаўся таксама і я.

Брыгада Каліноўскага са ста дваццаці чалавек атрымала заданне перабазіравацца ў маю мясцовасць — у лясы, што паміж Беластокам і Гродна. Сабраліся ў паход. Камбрыг параіўся са мною, дзе б па дарозе папоўніць харчовыя запасы. Партызаны звычайна ішлі ноччу, па бездарожжы, а днём прытойваліся дзе-небудзь у лесе і адпачывалі. Не могучы прасачыць за іх пераходам у цемры, немцы пад пагрозай смерці абавязалі старастаў вёсак дакладваць у камендатуру кожны дзень, што ўзялі за ноч партызаны, з улікам кожнага яйка, кожнага кавалка хлеба, збанка малака. Маючы такія дадзеныя з цэлай вобласці, дзяжурны афіцэр разносіў іх па карце. Праз пару дзён яму няцяжка было вызначыць кірунак пераходу груп і колькасць людзей у іх.

Наш паход на Гродзеншчыну і Беласточчыну павінен стаць нечаканасцю. Запасы ежы трэба было зрабіць гэтак, каб немцы не заўважылі. Надта хацелася адудзячыць Вайцяхоўскаму, што ён мяне ўзяў у групу, якая будзе дзейнічаць у маіх родных мясцінах. Хацелася пахваліцца багаццем свайго краю. Я ўспомніў, як перад Грунвальдам калісьці Ягела ў Белавежскай пушчы цэлую зіму паляваў на зуброў, з дружынай ганяўся за дзікамі і аленямі, сушыў мяса для ўсёй арміі, рыхтаваўся да бітвы. Потым так забяспечвалі сябе мясам паўстанцы 1831 года, а ў 1863 — каліноўшчыкі!

— У Белавежы — цэлы статак зуброў! Заб'ем аднаго самца, і ўсім хопіць на тыдзень ежы — запэўніў я камбрыга. — Ведаю, дзе іх знайсці ў пушчы!

Вайцяхоўскі задумаўся. Пачалі мы лічыць. Забіты і выпатрашаны самец важыць, мабыць, тону. Тысячу кілаграмаў мяса падзяліць на сто дваццаць — паўпуда на брата. Хопіць гэтага прынамсі на тыдзень.

— Вядзі! — кіўнуў Вайцяхоўскі.

Зуброў тады ў Белавежы асталася ўсяго 14. Іх не чапалі ні немцы, ні партызаны. Гэта было тое месца ў свеце, дзе яшчэ ў натуральных умовах пасвіліся стэпавыя волаты. Адзін наш вучоны нават ахвяраваў сабою — захацеў захаваць чалавецтву гэтых апошніх зуброў — і з чэрвеня 1941 года не пакідаў запаведніка. Колькі гэты, нямалады ўжо, мучанік мусіў выцерпець у вайну, няцяжка сабе ўявіць.

Шкада было пераводзіць рэдкіх звяроў, але сябе я пацешыў, што ў зубровым статку многа самцоў і жывуць яны нязгодна. Толькі цяпер я разумею, што мяне інстынктыўна цягнула зноў паглядзець на мару майго дзяцінства — лясных цароў!

З Гута-Міхаліны ў Белавежскую пушчу валакліся мы дзён пяць: хітравалі, блыталі сляды, разведвалі дарогу. Нарэшце, згаладнелыя, перамёрзлыя і аслабелыя, апынуліся мы ў пушчы ля загародкі з тоўстых жэрдак. Сто дваццаць чалавек раптам ажывіліся і пералезлі цераз жэрдкі. А вось і звяры. Чарада бурых аграмадзін бяспечна сабе адпачывала. Самцы з заінелай поўсцю, стоячы, спакойна жавалі жвачку. За імі на снезе ляжалі зубрыхі. Воддаль, рахманыя, дурэлі цяляткі.

Пачуўшы, што зашасталі боты, зубры неяк даверліва і з цікавасцю павярнулі да нас мысы, не крануліся з месца. Быццам яны лічылі за зусім натуральнае, што з'явіўся тут яшчэ хтосьці, і ніяк не трывожыліся. Толькі цяляткі задралі хвасты, паімчалі да мацярок. Адзін жа волат нязлосна набычыўся на нас, грэбнуў капытамі, абдаў сябе снегам. Потым трасануў бародкай — заляскалі ільдзяныя касцяшкі. Тады пругка выгнуў спіну, пацягнуўся, уздыхнуў, як паравоз. «Эх, хлопчыкі, сілы, халера, колькі сабралася ва мне!... Што зробіш, няма куды яе падзець!..» — казала ўся яго пастава.

Ад відоку самаўпэўненых бурых волатаў партызаны як бы анямелі.

— М-м! — хтосьці выдыхнуў у цішы.

Раптам мне і маім сябрам зрабілася сорамна ад таго, што мы задумалі зрабіць. Адхацелася і есці. Зрабілася нават бы цяплей. Мы з Вайцяхоўскім не маглі глянуць адзін аднаму ў вочы. Усе мы мінут пяць яшчэ падзівіліся на зуброў, паахалі і цішком палезлі цераз агарожу назад.




# Уільям Манчэстэр. СМЕРЦЬ ПРЭЗІДЭНТА

## ЗАПОЗНЕНАЯ РЭАКЦЫЯ

Машына прэзідэнта праязджала міма дуба, які на адно імгненне схаваў Джона Кенедзі ад стралка на шостым паверсе склада. Эйб Запрудэр, прыпаўшы да сваёй кінакамеры, здымаў прэзідэнцкую машыну, якая набліжалася да яго. Нелі (Конэлі) паказала на праезд пад вядуктам і сказала Джэкі: «Мы амаль прыехалі. Гэта за мастом». Джэкі думала, як прыемна будзе ўехаць у халаднаваты цень тунэля. Тут усё здавалася такім спакойным.

Машына прэзідэнта ішла са скорасцю 11,2 мілі ў гадзіну. Яна мінула дрэва. Запрудэр павольна паварочваў сваю кінакамеру за аўтамабілем. Дарожны знак, які трапіў у аб'ектыў, на адно імгненне загарадзіў машыну. Але яна больш не была схавана ад акна на шостым паверсе.

Пяцігадовы сын Чарльза Брэнда, што стаяў на тратуары, баязліва падняў руку. Прэзідэнт весела ўсміхнуўся яму. Ён таксама падняў руку, каб памахаць яму. І раптам рэзкі, аглушальны гук.

Большасць людзей, што сядзелі ў машынах, якім калі-небудзь прыходзілася страляць, адразу ж зразумелі, што гэта стрэл. Агенты Белага дома былі ў замяшанні. Усе яны — Келерман, Коусан, Грыр, Рыдзі і Хіл — падумалі, што дзесьці ўзарвалася петарда, і толькі калі Кпінт Хіл убачыў, што прэзідэнт нахіліўся наперад і схапіўся за шыю, ён, які валодаў імгненнай рэакцыяй, выскачыў са сваёй машыны, што ішла ззаду, і кінуўся да машыны прэзідэнта. Хуткасць рэакцыі агентаў, якія знаходзіліся бліжэй за ўсё да прэзідэнта, мела велізарнае значэнне ў гэтыя секунды пасля першага стрэлу. Ёсць стандартныя выпрабаванні, што вызначаюць гэту рэакцыю, і кожны пілот рэактыўнага самалёта, які не вытрымае выпрабаванні, не дапускаецца да штурвала. Аднак ад целаахоўнікаў прэзідэнта не запатрабавалі, каб яны прайшлі гэтыя выпрабаванні.

Мала таго, рэакцыя чалавека замаруджваецца з узростам, а тэмп яго жыцця можа яшчэ больш замарудзіць яе. Тэмп жыцця агентаў сакрэтнай службы быў неймаверна напружаны. Людзі, якія неслі службу ў Белым доме, кожны месяц перараблялі ад 50 да 80 гадзін. «У сорак гадоў, — гаварылі яны паміж сабой, — чалавек на нашай рабоце ўжо стары». Нягледзячы на гэта, па традыцыі бліжэй за ўсё да Кенедзі былі старэйшыя агенты. Грыру, вадзіцелю машыны прэзідэнта, было 54 гады, Келерману, які сядзеў побач з Грырам, — 48 гадоў. Яны маглі звярнуць убок пасля першага ж стрэлу, але на працягу пяці жахлівых секунд яны былі быццам паралізаваныя.

Ярбара, які сядзеў у машыне віцэ-прэзідэнта, адчуў пах пораху. «Божа мой,» — закрычаў ён, — забілі прэзідэнта!» Агент Руфус Янгблад тут жа пераскочыў праз спінку пярэдняга сядзення да Джонсана. Ён не быў такі ўпэўнены, як здавалася. Ён нават падумаў, як будзе бязглузда, калі ўсё гэта яму проста здалося. Але ўсё ж цвёрдым голасам загадаў: «Уніз!» — і прыкрыў сабой Джонсана.

Рою Келерману здалося, што ён пачуў окліч прэзідэнта: «Божа мой, мяне ранілі!» Рой аглянуўся праз левае плячо, Грыр праз правае. Машына віхляла з боку ў бок, павольна з'язджаючы з цэнтральнай лініі. І тут абодва ўбачылі, што Кенедзі ранены. У гэты момант Джон Конэлі зразумеў, што і ён ранены. Ён нахіліўся наперад, убачыўшы кроў на сваім калене, і схіліўся налева ў бок жонкі.

Губернатар вырашыў, што ён асуджаны. Яго ахапіла паніка. «Не, не, не, не, не! — закрычаў ён. — Яны заб'юць нас абодвух».

Жаклін Кенедзі пачула яго крык. Яна падумала: «Чаго гэта ён так крычыць?» — і з хваляваннем павярнулася да мужа.

Грыр павярнуўся наперад і выраўняў машыну. Келерман зноў аглянуўся. Але ні той, ні другі яшчэ нічога не зрабілі.

Першая лэдзі — яна ў апошні раз была першай лэдзі — устрывожана схілілася над прэзідэнтам. На яго твары быў задуменны выраз. Жаклін так часта бачыла гэты выраз, калі ён раздумваў над цяжкім пытаннем на прэс-канферэнцыі. Затым незвычайна прыгожым рухам ён падняў правую руку нібы для таго, каб адкінуць назад пасму сваіх каштанавых валасоў, але рука яго задрыжэла і бяссільна ўпала. Ён хацеў узяцца за патыліцу.

У машыне прэзідэнта панаваў жах. Апошняя куля трапіла Джону Кенедзі ў галаву, паразіўшы мазжачок. Нахіліўшыся над мужам, Жаклін убачыла, як ад яго патыліцы пачаў аддзяляцца кавалак чэрапа. Спачатку крыві не было. А ў наступнае імгненне кроў прыснула фантанам, заліваючы яе, мужа і жонку, Келермана, Грыра, абіўку машыны. Касцюм прэзідэнта прамок наскрозь. Ружы былі ўсе ў крыві. Твар паліцэйскага Бобі Харджыса, які ехаў побач на матацыкле, таксама быў запырсканы крывёю. Келерману



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

...што адбылося ў іх спецыяльнае пасяджэнне на тэму... як захаваць дзіця перад калецтвам і паносам.

І адна хвароба, і другая малым дзецям паграждае, асабліва летам.

Статыстыка кажа: 27,3% усіх выпадкаў прыпадае на ліпень і жнівень. П'яныя матацыклісты, сельскагаспадарчыя машыны, хат-

# ПЦК — Ваяводскае праўленне паведамляе...

няя жывёла — ад гэтага калечацца дзеці.

Справа паносаў у нованароджаных мае сваю прычыну ў брудзе. У 1966 годзе ад паносу на Беласточчыне памерла 129 малых дзяцей. Але гэты год быў добры. Раней памірала значна больш ад гэтай хваробы.

Статыстыка кажа: вясковыя маці вельмі рэдка заглядаюць са сваімі малымі дзяцьмі ў дзіцячыя парадні. А там можна ж даведацца, як абыходзіцца з дзіцём, каб не захварэла яно.

Запомніць трэба, што галоўнай прычынай захворвання на панос з'яўляюцца мухі, якія пераносяць заразкі гэтай хваробы. (вл)

# Паслугі ПКО

У апошні час ПКО яшчэ далей расшырыла свае паслугі. Зараз тут можна рэгуляваць кватэрныя аплаты, аплату за газ і электрычны ток, за тэлефон, раты ў ОРС, складчыны страхавання ў ПЗУ і ЗУС, аплаты за кіраванне ў дамы адпачынку, за падпіску на часопісы і кніжкі, а таксама іншыя грашовыя разлікі. Як вядома, гэта можна рабіць як у аддзелах ПКО, так і яго аенцыях (напр. у вёсцы Дзяніскі).

Належнасці, аб якіх вышэй мова, можна рэгуляваць як наяўнымі грашыма, так і маніпуляцыйнай аплатай — адпісваннем з ашчаднай кніжачкі ПКО.

Гэта вялікая палёгка для працуючых галоўным чынам там, дзе знаходзяцца аенцыі ПКО. (ак)

здалося, што твар яму заляпіла мокрае пілавінне.

Джон Конэлі крычаў і крычаў ад болю і страху. Гледзячы на мужа, Нелі пачала таксама крычаць. Яны былі ў жаху. Жаклін стала на сядзенне на калені і, павярнуўшыся да тратуара, закрычала: «Божа мой, што ж гэта робіцца! Божа мой, яны забілі Джэка, яны забілі майго мужа. Джэк! Джэк!» Цяпер і целаахоўнікі на пярэднім сядзенні пачалі рэагаваць: «Павярні ў бок», — сказаў Келерман Грыру. А ў мікрафон ён сказаў: «Лоусан, гаворыць Келерман. Нас ранілі. Пакажыце нам дарогу ў шпіталь». Ззаду машыны на багажніку знаходзіліся металічныя ручкі для агентаў і падножкі з кожнага боку запаснога кола. Клінт Хіл трымаўся рукой за левую ручку, і нага яго стаяла на левай падножцы праз 1,6 секунды пасля апошняга выстралу. У гэты момант Грыр рэзка націснуў на педаль газу, машына рванулася наперад, нага Клінта саскочыла з падножкі, і яго пацягнула за машынай. Пані Кенедзі павярнулася назад і працягнула яму руку.

Яна ўцягнула Клінта ў машыну, а ён штурхнуў яе назад на сядзенне, прыкрыўшы яе сабой. Але цяпер усё было скончана. Яшчэ з вуліцы ён убачыў рану ў галаве Кенедзі і зразумеў, што яна смяротная. Ён ведаў, што служба бяспекі не выканала свайго абавязку, і ў роспачы біў па борце машыны свабоднай рукой.

(Працяг будзе)

У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ

# У гасцях у цёткі Фядосі

Зайдзем тады ў госці да маёй суседкі — цёткі Фядосі. Цётка Фядося, як заўсёды, мілая і дабрадушная, прывітае нас каскадам цёплых слоў ды за стол папросіць сесці. Прынясе цётка водкі, змешанай з вішнёвым густым сокам, насмажыць яечні, нарэжа горбу свойскай каўбасы ды чорнага, разовага хлеба.

У цёткі Фядосі можна рассесціся свабодна за масіўным, дубовым сталом, каўбасу можна есці нават рукою, без відэльца, — рассядземся тады ды пачнем есці, запіваць, хваліць смак свойскай каўбасы, здаровага, сялянскага хлеба і пах вясковага паветра за акном.

У цёткі Фядосі часта бываюць госці з горада: сын з нявесткаю, што жыве ў Беластоку, дачка, якая вучыцца ў Варшаве, і пэўная высокаадукаваная пані з Варшавы, якая вельмі палюбіла цётку і дапамагла дачцы дастацца ў варшаўскія школы. Бачыўся я раз з гэтай паняй у Беластоку. У размове захаплялася вёскаю, свежым паветрам і цёткаю Фядосяю.

— Калі пабуду ў вёсцы, — гаворыць, — пачынаю верыць, што на свеце існуюць яшчэ людзі. Збрыдла мне пазіраваная, гарадская учцівасць, ветлівасць і прыгажосць. На вёсцы адчуваю чалавека ў цэлай яго сапраўднасці, ва ўсім яго аўтэнтызме.

Так кажа пані з Варшавы. Пані з Варшавы адчувае кантраст, які адчуваюць усе, выязджаючы з горада ў вёску: у горадзе ўсе ненатуральна прыгожыя, ненатуральна чыстыя, ненатуральна ветлівыя і ненатуральна разумныя. У адрозненне ад горада, у вёсцы ўсё здаецца быць простым і звычайным: размова прастадушная, гасціннасць шчырая, непадробленая, здаровая прыгажосць. Людзі жывуць тут, здаецца, жыццём натуральным, без напышлівасці і лішняга багажу вытанчаных манер.

Так здаецца людзям з горада. Цётка Фядося многа чаго ім прабачае: і тое, што ходзяць па вуліцы амаль зусім голыя, і што ў Бога не вераць, і што гутаркі іх часта па-дзіцячаму смешныя і неразумныя. Такі ўжо цяпер дзіўны свет настаў. Аднак у адносінах да сябе цётка Фядося значна больш патрабавальная.

Вось хаця бы цётка ў гасцях — на фесце ў суседняй вёсцы. Галодная, сасмаглая, — а на стале — чаго хочаш: еш і пі. Аднак есці ў гасцях непрыстойна, а ўжо зусім не выпадае наядацца. Выпадае толькі прабаваць усяго па крышачцы, ды на назойлівыя запросіны гаспадароў да яды адказваць, што я, моў, негалодная, што ўжо наелася і г.д. Затое гаспадароў абавязвае даведзеная да крайнасці гасціннасць, праз меру поўны стол і пастаяннае прымушанне гасцей да пачастунку.

Бо вясковае жыццё было заўсёды поўнае ўмоўнасцей, штучных перагарод і забарон, у не меншай ступені, чымсьці жыццё жыхара сённяшніх высокацывілізаваных гарадоў. Розніца толькі ў тым, што на колькі ў горадзе гэты своеасаблівы тынк уласцівага чалавечага аблічча, які называем культурай жыцця, заціраe, выгладжвае ўсе няроўнасці, шурпатасці аблічча і характару, усе недалікатнасці і грубасці, падкрэслівае тонкасць манер, жэстаў і кшталтаў, — на столькі стыль жыцця традыцыйнай вёскі наадварот: шорсткасць, суровасць, патрабавальнасць, сілу волі і звычайную фізічную сілу ставіць на чале чалавечых вартасцей, адкідаючы ўсялякую спешчанасць і вяласць.

Людзі традыцыйнай вёскі на роднага бацьку кажуць «мой стары», на маці «мая старая», а на жонку «мая баба».

Але ці мала сярод іх такіх, каму хацелася б бацьку называць «татанькам», маму — «маменькай», а жонку «галубочкам»? Кім бы аднак быў у вачах сваіх суседзяў і сяброў вясковы мужчына, які б не дэманстраваў штодзённа сваёй мужчынскай рашучасці, грубасці і бесцырымоннасці? Распешчаным панічом, мамінсынкам, лялюсем, нікуды не прыдатным у суровай вясковай супольнасці. Не пасаваў бы ён да пераказанага традыцыяй вобразу селяніна, да агульнай атмасферы засмечанай, вясковай вуліцы.

Чаму ж тады безупынна вяртаюся да гэтых адыходзячых у мінулае постацей: Максіма, Фядосі, дзядзькоў і цётак Старой Вёскі? Чаму паэтызую іх у істоце канфармістычнае і зусім не геройскае жыццё?

Адказваю: Бо і жыццё гэтае і асэнсоўваючыя яго радасці і маральныя вартасці зусім іншыя ад паўсюдных у сённяшнім свеце. Старая Вёска, яе жыццё і культура цікавыя, бо паказваюць, што магчыма іншая развязка чалавечага жыцця і чалавечага шчасця, чымсьці тая, якую прапануе нам сённяшняя гарадская цывілізацыя.

**Рыгор Паўлюк**



# КУР'ЕР ЦЭНТРА

(Працяг са стар. 1)

У гарадах і мястэчках, на глухіх хутарах Піншчыны, ля лясных вогнішчаў Слонімшчыны — усюды чакаюць маленькую Пасіянарыю, як называлі яе сябры.

А калі паказалася яна, то ў сэрцах абяздоленых лесарубаў і вугляпалаў, плытагонаў і парабкаў запальваліся іскры гневу супраць эксплуатататараў. Мазолістыя рукі даставалі з-пад стрэх кумачовыя флагі — рабочы люд выходзіў на вуліцу змагацца за свае правы.

За юнай падпольшчыцай і ноччу і днём ганяецца дэфензіва. Яе ведала легендарная Вера Харужая — сакратар падпольнага Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі. Яны сустракаюцца ў Сувалках. Шмат было сказана на гэтай сустрэчы гарачых слоў, многа сіл улілося ў юнае сэрца.

Можа гэтая сіла не дазволіла ёй задрыжаць, калі Зіна зноў трапіла ў катавальню дэфензівы. Шмат таварышаў па барацьбе аказаліся разам з ёю ў турме. «Будзь спакойна за мяне, Вера! — шапталі яе вусны пры сустрэчы з Харужай на пятачку турэмнага дзядзінца, куды выводзілі іх на шпацыр.

Падаючы пасля допытаў на брудны сяннік, чула Зіна голас Веры Харужай. З камеры да камеры ішоў перастук: «Трымайся, Зіна!» І адказ: «Ні слова не скажу!» Гэта была другая сустрэча юнай падпольшчыцы з Верай Харужай.

У дваццаць дзевятым яе зноў схопліваюць агенты ахранкі. Улады тады вырашылі арганізаваць судзілішча над Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі. У Беластоку ідзе працэс трыццаця пяці. Сярод іх Зінаіда Клейф. Як ні стараюцца суддзі ў чорных тогах, ім не ўдаецца зламаць рэвалюцыянераў. Не, не ім выносяць сёння прыгавор. Яны кляймуюць існуючы рэжым, выкрываюць яго антынародную сутнасць.

І вось тады, перад самым прыгаворам, як гнеўны выклік фашызму, птушкай узвіўся ў зале суда чырвоны сцяг. Зіна падняла яго разам з Юхнавецкай, ведаючы, што паплаціцца лішнімі гадамі турмы.

Газеты шматлікіх краін адзначылі бяспрыкладную мужнасць трыццаці пяці змагароў. «Праўда» ў гэтыя дні пісала аб стойкасці абвінавачаных. «244 гады катаргі ў Беластоку» — пад такім аншлагам вышаў тады нумар беларускай «Звязды». Прыгавор быў жорсткім. — Зіну прыгаварылі да шасці гадоў. Але турма ў Фардоне — гэта сапраўднае пекла, — дзе ў сцюжу адчынялі вокны і людзей прымушалі класціся на голае каменне, не зламала яе.

Толькі ў трыццаць дзевятым убачыла сонечны свет. І зноў змагалася, каб хутчэй узышла над роднай краінай зорка свабоды.

А калі асвяціла гэтая зорка небасхіл роднага Прынёмання, пайшла да ткачоў гродзенскага тонкасуконнага камбіната і працавала сярод іх да тых пор, пакуль гнуткімі былі пальцы, лёгкім крок. Але і цяпер, перайшоўшы на пенсію, яна свая, родная для кожнай ткачыхі — і самай юнай і той, якой за пяцьдзесят.

**Віктар Яркін**

г. Гродна

# У КАРНА-АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ КАЛЕГІЯХ

У карна-адміністрацыйных калегіях Беласточчыны, якія існуюць пры павятовых і ваяводскай радзе, «судзіць» 1099 членаў гэтых устаноў.

Паводле справаздаўчых дадзеных найбольш прапаноў аб пакаранні за 1963—66 гады выступіла ў 1963 г., бо аж 20.594. Потым колькасць прапаноў аб пакаранні зменшылася, каб у 1966 годзе павялічыцца зноў да ліку 19.529.

Сістэматычна і выразна павялічвалася колькасць прапаноў аб пакаранні ў Бельскім павеце. Іх лік у 1966 г. склаў 1.015, у Гайнаўскім — у тым жа годзе было 886, Сямяціцкім— 837, а Сакольскім — 749.

**За што найбольш караецца?** Першае месца займаюць правіннасці хуліганскага характару. У 1963—66 гадах агулам за гэтага тыпу правіннасці было 29.367 прапаноў, калі агульная іх колькасць выносіла 74.662. Другое месца займаюць парушэнні правіл дарожнага руху. За гэтую правіннасць было (1963—66) 21,8% прапаноў аб пакаранні.

**Ці ўсіх пакаралі?** Аказваецца, што з агульнай колькасці, 18.950 спраў, прагледжаных у 1966 годзе, 1.832 апраўданы, для 987 спынена справа, вымовай пакарана 370 чалавек, штрафам — 15.519, а арыштам 251 чалавек.

**Колькі пакараных?** Адных штрафаў (мандатаў) толькі ў 1966 г. наложана 118.642. Агульная колькасць пакараных на Беласточчыне даволі высокая. Перадавое месца займае тут сам горад Беласток, бо на кожныя 100 жыхараў у 1966 г. было пакарана аж 16 чалавек. У Бельскім павеце на агульную колькасць 73.736 жыхараў пакарана 5.008, у Гайнаўскім — на 59.578 пакарана 3.929, Сямяціцкім — на 70.087 пакарана 4.890, а Сакольскім — на 60.417 пакарана 3.475 (найменш). (ак)

ФАЛЬКЛОР

# Жніўная — прыгонніцкая

**Ой выглян, выглян ясны соколе**
**Вжеж мы нэ прыдэм на сіэтэ поле**
**Пліуон нэсэм, пліуон**
**Зэ вшысткіх струон.**

**Дожалі жыто, дажнэм пшэніцю**
**Нэ жалуй панэ пэрэпэліці**
**Пліуон нэсэм, пліуон і г.д.**

**Нэ жалуй панэ бочку мэдочку,**
**Нажалі жыта так як мэдочку**
**Пліуон нэсэм, пліуон і г.д.**

**Нэ жалуй панэ сівця жэрэбця,**
**Йедь нам по віно аж до Кракowця**
**Пліуон нэсэм, пліуон і г.д.**

**Бодай мы здровы так плёновалі.**
**І на той рочок шчэй дочэкалі**
**Пліуон нэсэм, пліуон і г.д.**

Запісана ад Наталлі Аляксеюк гадоў каля 85-ці, з вёскі Рыбалы.





© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



## СВІЦЯЗЯНКІ

За час падрыхтоўкі да юбілейнага фестывалю самадзейнага мастацтва на Гродзеншчыне створаны дзесяткі новых калектываў. Навагрудскі ансамбль песні і танца «Свіцязь» — адзін з іх.

На здымку: свіцязянкі — Ірына Кузміч, Людміла Грамыка, Галіна Мамаева і Наталля Шэйпук. Фота А. Перахода (Матэрыял арганізаваны «Гродзенскай праўдай»).

### ЦІ МАГЧЫМА НАВУЧАННЕ Ў СНЕ

**Група чэхаславацкіх вучоных правяла шырокае даследаванне па пытанню аб магчымасці запамінання ў сне. На працягу ночы пэўнай групе людзей да 12 разоў паўтаралася 25—50 слоў на невядомай ім мове з перакладам на родную мову. Ні ў адным выпадку людзі не запаміналі незнаёмыя словы, якія яны чулі толькі ў сне. Цэлая серыя разнастайных доследаў паказала, што не пацвярджаецца існуючы пункт гледжання аб магчымасці навучання ў сне.**

## Славянскі першадрукар

Вядома, што першымі святынямі ў Польшчы былі святыні ўсходняга абраду. Хрысціянства на польскіх землях было прынята ў гэтым абрадзе надоўга перад тым, як паявіўся ў заходніх частках Польшчы заходні абрад. Першыя епіскапы ў Кракаве былі ўсходняга абраду (праваслаўнага). Гэта епіскапы Прохар (970 г.) і Прокл (986 г.). Мітраполія ўсходняга абраду, праўдападобна, існавала і ў Сандомеры. Слынны **Анонім** выразна ўспамінае ў сваіх хроніках аб існаванні ў тагачаснай Польшчы двух епіскапатаў, відавочна ўсходняга і заходняга абрадаў.

Перад узнікненнем адзінай польскай дзяржавы існавала магутнае княства віслянаў і гэтае княства прыняло праваслаўе з праваслаўных тады Мараваў (Вялікамараўскае княства). На Маравах дзейнічаў апостал Славяншчыны, Мяфодзій.

Вядомы польскі гісторык і кнігазнаўца Эстрэйхер сведчыць, што ў сярэдневяковай Польшчы вельмі папулярны быў славянскі алфавіт, лацінкаю пісалі толькі ксяндзы. Святыні называліся царквамі і толькі цераз некалькі вякоў пасля прынялася назва «касцёл». У 1623 г. Капысценскі ўказвае, што — «королева Ядвига читовала Библию славянскую, а до вырозумения ей мела выклады отцев святых словенским языком».

Першыя кнігі на славянскай мове друкаваў Святаполк Фіёла, мешчанін Кракава. Было гэта ў 1491 годзе. Фіёла друкаваў славянскія кнігі ў Кракаве толькі **адзін гэты год.** Былі гэта кнігі літургічныя. Лацінскае духавенства абвінаваціла яго ў антыкасцельнай дзейнасці, адбыўся суд, абышлося без кары, Фіёла закрыў сваю друкарню, выехаў недзе ў Галіччыну і на тым абрываюцца весткі пра гэтага даволі загадкавага чалавека.

Цікава дадаць, што Фіёла паходзіў з лэмкаў — гэта адно з цяперашніх украінскіх плямёнаў, што засяляе Карпацкія горы ад аколіц Крыніцы і далей аж да падножжа Татраў і мястэчка Любоўні, за славацкай граніцаю.

Святаполк Фіёла быў першым чалавекам, які друкаваў кнігі на славянскай мове.

Першым, хто ўспамінае аб кнігах Фіёлы, з'яўляецца Захар Капысценскі (1627 г.), які піша: «Книга абовем ТРИОДИА з грецкого языка названии, в Кракове друковано. А находятся три книги в многих при церковех и в монастырох, в земли львовской и в монастыру дорогобузском, и в Городку, монастыра печерского маетности, **и на Подляшу, в земле белской, в Ботках** (Боцьках — с.я.) **маетности его милости пана Богдана Сапеги, воеводы минского»...** (падкрэсл. — с. я.)

Кнігі Фіёлы трапілі і на нашыя землі. (С.Я.)

## Рыба-меліяратар

Аказваецца, што выкапаць каракумскі канал было лягчэй, чым утрымаць яго ў такім стане, каб прыносіў карысць. Пад гарачым сонцам Туркменіі канал пачаў вельмі хутка зарастаць водарасцю. Можна з імі было змагацца толькі пры дапамозе машын і хімікатаў. Але машыны былі дарагія, а хімікаты маглі б знішчыць усё, што было жывым у канале. Вучоныя прыпомнілі сабе аб траваедных рыбах — талпыга і белы амур. Гэтыя рыбы на працягу дня з'ядаюць столькі водарасці, колькі самі важаць.

Рыбы ўпусцілі да зарастаючага каракумскага канала. Пасля васьмі год размножыліся яны на столькі, што сталі іх адлаўляць. Дзякуючы гэтым рыбам справа зарастання каналу перастала быць праблемай.

(а-ка)



Белы амур.

## „АДВАЖНАЯ" КІНАКАМЕРА

Здымачная камера «Канвас-аўтамат» на кінастудыі «Ленфільм» набыла незвычайную «бясстрашнасць». Яна пачала фіксаваць самыя ашаламляльныя трукі: здымаць з-пад колаў поезда, у час руху аўтамашыны, з-пад капытоў бягучага каня. Прычым аператар спакойна назірае ў візір, не падвяргаючы сябе ніякай рызыцы.

Сакрэт такой «адвагі» — у створаным на студыі аптычным прыстасаванні, якое перадае светавое адлюстраванне з дапамогай своеасаблівага перыскопа, што нагадвае гнуткі шланг. У ім многія тысячы найтанчэйшых шкляных валокнаў, па якіх адлюстраванне «бяжыць» ад відашукальніка камеры да вока аператара.

Першыя доследы паказалі, што назіранне праз шкляны шланг не скажае карціны, якая адкрываецца аб'ектыву кінакамеры. Аператар цяпер можа смела адпраўляць сваю апаратуру, як кажуць, і ў агонь і ваду.




Пасля першага дня допытаў Берг зразумеў: з гэтай дзеўкай ні аб чым не дагаворышся, калі ісці звычайным канонам пытанняў і адказаў. Берг вырашыў ісці іншым шляхам. Пробны шар ён падпусціў пры арышце. Калі прабіраюць у прысутнасці арыштаванага таго, хто яго браў і біў, гэта нядрэнны аванс для далейшай працы. Берг вырашыў паіграць з рускай: ён вырашыў «завербавацца» да яе, а ўжо потым праз яе выйсці на іншых удзельнікаў групы. Вырашыўшы іграць партыю так, ён выклікаў Аню на допыт ноччу, калі ўсе іншыя супрацоўнікі ваеннай разведкі разышліся па кватэрах.

Берг пасадзіў Аню ў крэсла, уключыў плітку і паставіў чайнік. Потым ён сеў насупраць яе і пачаў сумна разглядаць дзяўчыну. Увесь дзень ён вёў допыт праз перакладчыка. Гэта быў таксама ход. Берг разлічваў на гэты ход. Ён ціха сказаў:

— Вось такія пірагі, золата маё...

Сказаў ён гэта з такім мілым волжскім оканнем, што Аня нават адскочыла да спінкі крэсла.

— Толькі ціха гавары, — перайшоў на шэпт, — тут нават сцены маюць вушы.

Берг адыйшоў да шафы, дастаў праігрывацель і пусціў музыку.

— Слухай, — сказаў ён, — я не хачу ведаць ні твайго сапраўднага прозвішча, ні хто ты, ні з кім ты звязана. Я пастараюся табе дапамагчы, але не цаной здрады. Не разумееш?

Усё гэта было так нечакана, што Аня, паківаўшы галавой, таксама шэптам адказала:

— Не разумею.

— Я хачу, каб ты мне адказала на адно пытанне, — сказаў Берг, — ты лічыш, што ўсе немцы з Гітлерам ці не?

— Не, — адказала Аня, — не ўсе.

— Як ты думаеш, можа пад пагонамі палкоўніка, скрывацца чалавек, які не сімпатызуе фашызму?

— Такія людзі здаюцца ў палон.

— Правільна. У палон могуць здацца тыя людзі, якія знаходзяцца на пярэднім краі. А што рабіць чалавеку — я не аб сабе гавару, не думай, у нас жа з табою ідзе абстрактная гутарка, ці не так? Дык вось, што рабіць чалавеку, які не мае магчымасці здацца ў палон?

— Гітлера застрэліць — вось што.

— Ну, добра... Я гэтага твайго адказу не чуў. Я паўтараю: як такому чалавеку даказаць сваю антыпатыю фашызму?

— Чаго вы ад мяне хочаце? — спытала Аня.

— Нічога, — сказаў Берг. — Зараз будзем піць чай усяго толькі. Ты любіш як — мацнейшы ці слабы?

— Мацнейшы.

— Дарма. Ад моцнага чаю псуецца колер твару.

— У мяне ўжо і так сапсаваўся колер твару, — сказала Аня і памацала сіняк пад вокам.

— Ты павінна зразумець яго. У гэтага афіцэра на фронце брат загінуў.

— Не мы ўсё гэта пачалі.

— Таксама праўда. Я не апраўдваю яго, проста я стараюся табе вытлумачыць, чаму ён быў такім нястрыманым.

— Адкуль вы так добра ведаеце рускую мову?

— Я не магу табе адказаць.

— Чаму?

— Таму што гэта мая тайна, а калі яе даведаешся ты, гэта перастане быць тайнай.

— Так я і не магу зразумець, чаго вы ад мяне хочаце.

— Абсалютна нічога, — усміхнуўся Берг. — Я хачу пафантазіраваць. Уяві сабе: рускай разведчыцы — не табе, не табе, — даюць магчымасць уцячы. Так? І нават дапамагаюць ёй перайсці лінію фронта. Або наладзіць радыёсувязь адсюль. Толькі з адной умовай: каб яна там сказала, што ў адной з германскіх вайсковых група́вак ёсць чалавек, які хацеў бы ўвайсці ў кантакт з рускай разведкай. Як ты думаеш, пойдуць на гэта бальшавікі?

— Адкуль я ведаю?..

— Ты не ведаеш, ясная справа... Я ж табе не аб гэтым гавару, я проста фантазірую. Пафантазіруй і ты. Як ты думаеш: пойдуць на кантакты з такім чалавекам ці не.

— З нямецкіх турмаў уцячы немагчыма.

— У прынцыпе так, калі ты трапіла ў гестапа. Гутарка ідзе аб тым, калі ты трапіла ў рукі вайсковай сакрэтнай службы. З гестапа ніхто не ўцякае. Адтуль наладжваюць уцёкі для перавербаваных агентаў. Вось нядаўна такія ўцёкі гестапа наладзіла аднаму завербаванаму агенту проста з кракаўскага рынка.

Берг глянуў на дзяўчыну: ён хацеў бачыць яе рэакцыю. Калі яна звязана з тым, што ўцёк з гестапа рускім, яна не магла не зарэагаваць. Але твар яе астаўся спакойным.

«Значыць, яна не звязана з тым чалавекам, — вырашыў Берг, — відавочна гэта зусім іншая група. Праз яе я ўсё высветлю аб Мусе. Па яго апісаннях, гэта, зразумела, яна».

Вядома, калі б Віхор сказаў Ані пра свой арышт, яна б уздрыганула. Арыштаваны перастае баяцца за сябе; ён баіцца за сяброў. Але Віхор нічога нікому не сказаў, таму што здаваў сабе справу: скажы ёй пра гэта, і ўсе яго падначаленыя шарахнуцца ад яго як ад магчымага агента гестапа — проста так з гестапа не ўцячэш. Ён вырашыў адкрыцца потым, як выканае заданне.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

### У РЭДАКЦЫЮ «НІВЫ»

Маё пісьмо — гэта скарга супраць дзяцей маіх і просьба аб парадзе. Я ўдава. Мне 72 гады. 21.VI.67 г. пахавала свайго чалавека і асталася сама аднюсенька, хоць маю шэсць сваіх родных дзяцей: 3 дачкі і 3 сыны. Усе маюць сем'і. Але дапамагчы ні адзін не хоча і на парог мяне не хочуць пусціць. Без жаднае літасці. У мяне 4 гектары і 92 сотых зямлі. Але з яе не карыстаю, карыстаюць з яе людзі. Жывога інвентара не маю, апроч адной кароўкі. Мёртвага інвентара ніякага не маю. На маю просьбу сусед памог мне прадаць кароўку за 5000 зл. Грошы гэтыя я дала сыну Уладзіміру Лабаноўскаму, які жыве недалёка ад маёй калоніі, у вёсцы Ракавічы. Ён купіў гумовы воз і нічога мне не даў. Калі памёр мой чалавек, то хаўтуры выправіла я. Дзеці ні граша не далі. Каштавала мне 830 злотых. Апрача гэтага крыж на могільніку паставіла і труну выкупіла. Дала дзецям на труну 1300 зл. То яны купілі труну за 570 зл., а рэшту забралі сабе. О, такія добрыя родныя дзеці. Па хаўтурах сабраліся самі ў сваёй хаце, а да маёй не пашлі, злажыліся на 10 літраў гарэлкі. Там пілі, спявалі і галасавалі, а ў мяне былі чужыя людзі, яны і памаглі пахаваць. Усе выдаткі каштавалі мне каля 3000 зл.

Дзеці мяне і знаць не хочуць. Адна толькі дачка Надзея, што жыве ў Гайнаўцы, купіла на труну вянок.

Калі яшчэ быў хворы мой чалавек, то прыехаў сын Павел Лабаноўскі з вёскі Тэрэспаль (20 кіламетраў ад Элку) і запрапанаваў вылечыць майго чалавека, бо ў яго жыве лекар. Толькі трэба грошы. Я тады прадала кароўку за 5000 зл. і дала сыну: бяры яго, вязі і лячы. А ён грошы ўзяў, а везці лячыць не захацеў. Стары мой на каленях да яго далез і кажа: — Бяры з сабой і лячы. А ён сказаў: — Нашто ты мне патрэбны.

— Дык аддай грошы.

Але ён грошай не хацеў аддаць.

Так выглядае сітуацыя з роднымі дзецьмі. Я хачу дабіцца рэнты — аліментаў ад дзяцей. Парайце, што мне рабіць. Я падаю іх прозвішчы. Пётр жыве ў Новым Беразове, Гайнаўскага павета, Уладзімір — у вёсцы Ракавічы, Гайнаўскага павета, дачка Марыя Себесюк у Ракавічах на калёніі, Зіна Мазало ў вёсцы Чыжы, Гайнаўскага павета. А гайнаўская дачка добрая. Чакаю парады і дапамогі.

**Анісія Лабаноўская**
вёска Ракавічы, Гайнаўскага павета.

Ад рэдакцыі: Вы павінны звярнуцца ў суд у Бельску з іскам (powództwem) аб аліментах, найлепш супраць усіх сваіх дзяцей.




Дарагое Сэрцайка!

Цяпер я служу ў войску. За год прыйду дамоў. Меў я ў сваёй вёсцы дзяўчыну, якая абяцала мне, што будзе чакаць. Калі прыязджаў у водпуск, заўсёды ішоў да Іркі. Часта пісалі мы пісьмы. Але вось месяц таму назад я атрымаў ліст ад свайго сябра з маёй вёскі, які напісаў мне, што да Іркі ездзіць іншы хлопец з суседняй вёскі, і што яна з ім прыходзіла на забаву. Я перастаў адпісваць пісьмы Ірцы, хаця яна прыслала мне тры пісьмы і пытала мяне, чаму я не адказваю ёй.

У гэтым месяцы я не мог быць у водпуску і не ведаю, ці буду ў наступным, хоць буду старацца. Я кахаю Ірку і вельмі перажываю. Ніколі не думаў, што яна можа так паступіць, бо ўсё запэўнівала мяне, што яна таксама моцна мяне кахае і будзе на мяне чакаць.

Пастанавіў, што калі прыеду ў водпуск дахаты, нават не гляну на яе, хоць будзе мне вельмі цяжка.

Сам ужо не ведаю што рабіць і як паступаць. Парай. Янэк

Дарагі Янэк!

Пакуль што няма чаго так моцна перажываць, бо ж ты яшчэ не пераконаны ў гэтым. Нічога, што сябра твой аб гэтым табе напісаў. Зразумей, што сябры часам робяць праз злосць, праз зайздрасць і з іншых другіх прычын. А па-другое, невядома, што гэта за хлопец, мо які сваяк, мо сябра і нічога дрэннага ў тым, што прыйшла з ім на забаву. Ты паедзь у водпуск, калі толькі будзеш магчы і перад усім зайдзі да Іркі, даведайся аб усім, пагавары іменна з ёю аб гэтым, а не з «трэцімі» асобамі. Усё выясні, а тады будзеш сам ведаць, як паступіць далей. Сэрцайка

### ПРАВЕРКА ІНСТРУКТАРАЎ АМАТАРСКІХ КАЛЕКТЫВАЎ

Да канца гэтага года ўсе, хто працуе з аматарскім рухам у якой-небудзь галіне (тэатр, танцы, спеў), павінен праверыцца. Для гэтага павінен злажыць свае паперы да Ваяводскай кваліфікацыйнай камісіі.

Старэйшыя асобы, якія вядуць калектывы, а не маюць мінімум патрэбнай адукацыі (гэта значыць сярэдняй), таксама могуць старацца, каб прызналася ім інструктарская катэгорыя. Асновай тут будзе шматгадовая праца (звыш 10-ці год) з аматарскім рухам і яе вынікі. Праверка такіх асоб будзе мець характар экзамену з прысвоеных практыкай ведаў. Адрас Ваяводскай кваліфікацыйнай камісіі:
Wojewódzki Dom Kultury
Białystok, ul. Kilińskiego 8.

Асабіста можна пад вышэй указаны адрас заходзіць кожны панядзелак і аўторак ад гадзіны 8 да 15. (вл)

### БЯДА З КІНО

Кіно ў Дубічах Царкоўных даўжэйшы час не мае поспеху. Мала хто ў яго ходзіць. Трэба адзначыць, што кіно гэта лічыцца паўсталым, таму што апрача Дубіч абслугоўвае дзве суседнія вёскі: Вітава і Чэхі Арлянскія.

На фільм кожны раз прыдзе 10—15 чалавек, а некалі і таго няма. Чым можна вытлумачыць такое слабое зацікаўленне?

На самым пачатку, калі кіно толькі арганізавалася, зала кожны раз была запоўнена гледачамі, але тады часта дэманстраваліся савецкія кінафільмы. Для прыкладу дадам: у мінулым годзе быў паказаны савецкі фільм «Чапаеў». Зала тады была запоўнена гледачамі да апошняга месца. Крыху пазней савецкія фільмы ўжо прыходзілі з Беластока як на лякарства (рэдка). На іх месца адзін за адным дэманстраваліся сучасныя рамантычныя заходнія кінафільмы. А трэба адзначыць, што вясковы народ не вельмі цікавіцца сучаснай тэматыкай, а галоўнае тое, што фільмы, якія ў нас пераважна былі — нецікавыя. Людзі адвярнуліся ад кіно. Гавораць, што з Беластока прысылаюць у вёску адно барахло. І цяжка пераконваць людзей, што мо гэта і не так. Абслуга нашага кіно мае зусім малы даход: за месяц утаргуюць усяго 700 — 800 зл. Гэта проста крытычна, яны (абслуга) і на сябе не заробяць.

У хуткім часе наша кіно мае стаць сталым (у адных Дубічах) і трэба адзначыць, што калі цяпер утаргуюць месячна 800 зл., то тады якіх 300 зл. Так што наўрад, каб яно ў нас утрымалася.

Бяда з кіно. І ратаваць няма як.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

### АГАРОДНІЦТВА

Ад некалькіх год Васіль Зайкоўскі з Бельска Падляшскага займаецца агародніцтвам. Садзіць у асноўным капусту, памідоры і гуркі.

У гэтым годзе пасадзіў ён больш як 10 тысяч кальвоў капусты і 3 тысячы памідораў. Пабудаваў сабе прыгожую цяпліцу, у якой вырошчвае расаду. Як сам ён сцвярджае, агародніцтва вельмі паплатнае.

**Павал Зінкевіч**
Бельск Падляшскі

### ПАСЛУЖЛІВЫ ПІСЬМАНОСЕЦ

Міхась Панфілюк многа год працуе пісьманосцам. Штодзённая яго траса амаль 30 км. Возіць пошту ён пераважна веласіпедам. Жыхары вёсак адносяцца да яго з пашанаю за яго паслужлівасць. Прывозіць ён большыя пачкі нават да Масева, якое знаходзіцца ад Нараўкі ў адлегласці 10 кіламетраў.

УКС
Масева

### ПЕРАДАВІК АХОВЫ РАСЛІН

Міхал Каршак з вёскі Храбалы з'яўляецца членам сельскагаспадарчага гуртка, а таксама перадавіком аховы раслін. Штогод ён апырсківачам праводзіць апырсківанне ў вёсках Храбалы, Рапнева і Грыневічы. Гадавыя планы перавыконвае. Аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва ППРН у Бельску прызнаў яму званне перадавіка аховы раслін у Бельскім павеце.

П. Зінкевіч

### ЛЮДЗІ НЕ ШАНУЮЦЬ

Ужо 6 год, як правялі рэгуляцыю ракі Руда і Зацісаўка. Рака Руда ўпадае ў раку Нарву каля мястэчка Нарва, а бярэ пачатак недалёка ад вёскі Патока Беластоцкага павета і становіць павятовую граніцу між вёскай Белкі, Гайнаўскага павета і вёскай Гознай, Беластоцкага павета.

У геадэзійных планах яна называецца рэчка Вырва. Пасля расчысткі і рэгуляцыі гэтая рэчка выглядала вельмі прыгожа. Цяпер сяляне вёскі Гозна каля гэтай рэчкі пасвяць кароў і наогул не адганяюць кароў ад рэчкі. Рэчка ізноў завалена і нават у некаторых месцах не пазнаць, што яе рэгулявалі. Мясцамі вада стаіць роўна з берагамі і не мае ніякага адплыву.

Варта, каб аб гэтай справе сур'ёзна падумала Павятовае праўленне воднай меліярацыі ў Беластоку і прыняло якія-небудзь меры.

«Ярош»
Гайнаўскі павет

### РАБОТЫ ПРЫ ВУЛІЦЫ

Вуліца ў Тафілаўцах (Гайнаўскі павет) вузкая і брук вельмі дрэнны. Палавіна вуліцы бруку зусім не мае. Па ініцыятыве Прэзідыума ГРН у Дубічах Царкоўных яшчэ ў мінулым годзе восенню пачалася закладка бруку, аднак многа тады не зрабілі, бо ўдарыў мароз.

Цяпер ізноў ідуць работы пры закладцы бруку і пашырэнню вуліцы. Брук кладзе Мікалай Чарнэцкі. Астаецца ў гэтым адна неразвязаная праблема. брак камення ў ваколіцы, без якога і работа можа стаць.

**М. Панфілюк**

---

Інакш кіраўніцтва злякаецца і адкліча яго дамоў.

— А дзе гарантыя, што гэта руская разведчыца не атрымае кулю ў спіну? — спытала Аня.

— Ну гэта ўжо смешна, — сказаў Берг. — Першая гарантыя — магчымасць пусціць ёй кулю ў лоб, а не ў спіну. Як рускаму шпіёну, тут, у турме, нават без суда.

— Што, многія ў вас зразумелі — капцы Гітлеру?

— Я ж не задаю табе непасрэдных пытанняў, золата маё. Я ж з табою фантазірую.

— Добра, — сказала Аня, дапіўшы чай. — Я згаджаюся паспрабаваць.

— А дзе гарантыя, што ты не здрадзіш мяне, калі ўцёкі не ўдадуцца?

— Вы не будзеце ад мяне нічога патрабаваць тут?

— Буду.

— Чаго ж менавіта?

— Паехаць у наш радыёцэнтр і перадаць сваім, у штаб, некалькі дэзінфармацый.

— Нічога не выйдзе.

— Пачакай. Не гарачыся. Па-першае, твае радыёдадзеныя ў нас. Па-другое, ты перадасі дзве-тры дэзы, а потым я табе наладжу ўцёкі, і ты зможаш звязацца са сваімі людзьмі і перадаць у Маскву, што перадала дэзінфармацыю. Па-трэцяе, пасля таго, як ты гэта зробіш, яны змогуць пачаць ігру супраць нас, «паверыўшы» нам, а на самай справе яны будуць ведаць усю праўду. Паслухай мяне, золатка, я ў разведцы не першы год.

— Чаму такая складаная дарога для ўцёкаў?

— Таму, што так можна ўцячы. Радыёцэнтр не турма.

— Я павінна падумаць.

— Думай.

— Не, не тут.

— Ты хочаш вярнуцца ў камеру?

— Так.

— Добра.

— А чаму б нам не ўцячы разам?

— Каб быць расстраляным? Не хачу быць расстраляным.

— Я даю вам гарантыі.

— Душачка ты мая, — усміхнуўся Берг, — гарантыі магу даць толькі адзін я — сабе самому. Для гэтага мне трэба перадаць тут вашым людзям такія звесткі, якія пакажуць вашаму начальству, што я за адзін.

— А чаму вы вырашылі гаварыць аб усім гэтым менавіта са мною?

— Ты думаеш, мы кожны дзень ловім рускіх разведчыкаў? І потым ты ідэальны выпадак, ты радыстка, я магу забраць цябе ў радыёцэнтр, разумееш? Адсюль я табе ўцёкаў наладзіць не змагу ні пры якіх абставінах.

— Я хачу падумаць, — паўтарыла Аня.

*

У камеры яна ўпала на нары і завыла.

«Дурніца, дурніца, набітая дурніца! — падумала яна. — Нічога не ведаю, нічога не разумею! Дурніца! Мамачка, што мне рабіць, мамачка?!»

І заплакала, як ад злоснай крыўды ў дзяцінстве.

**(Працяг будзе)**

# КІНО

**ПРАГРАМА**
**на 15—20.VIII.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Ten wstrętny celnik'' (franc.), 15—16. „Tata, mama, córka i zięć'' (radz.), 17—18. „Gorące lato'' (jugosł.), 19—20.

**Кляшчэлі**

„Grek Zorba'' (USA), 15—16. „Nieśmiały w akcji'' (radz.), 17—18. „Wzgórze'' (ang.), 19—20.

**Дубіны**

„Ktokolwiek wie'' (polski), „Towarzysze podróży'' (radz.), 16—20.

**Нараўка**

„Przygody Wernera Holta'' (NRD), „Sposób bycia'' (polski), 16—20.

**Нарва**

„Chudy i inni'' (polski), „Szkarłatne godło odwagi'' (USA), 16—20.

**Дубічы Царкоўныя**

„Przed nami zakręt'' (radz.), „Tytoń'' (bułg.), 16—20.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Cierpkie głogi'' (polski), „Długość pocałunku 90'' (czeski), 16—20.

**Орля**

„Popioły'' (pol.), I i II s. 16—20.

**Райск**

„Sublokator'' (polski), „Fatalny list'' (ang.), 16—20.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Upiór w Marsville'' (czeski), „Kontrybucja'' (polski), 16—18.

**Міхалова**

„Wąż morski z Loch Nes'' (ang.), 15—16. „Wołga, Wołga'' (radz.), 17—18. „Tyle wierności na nic'' (węgierski), 19—20.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Ludobójcy'' (szwedzki), 15—16. „Dialog'' (węgierski), 17—18. „Fanfan Tulipan'' (franc.), 19—20.

**Шудзялава**

„Strzelby Apaczów'' (USA), „Złodziej brzoskwin'' (francuski), 16—20.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Sam pośród miasta'' (polski), „Kapral w matni'' (franc.), 16—20.

**Новы Двор**

„Barwy walki'' (polski), „Zdradzona ziemia'' (rumuński), 19—20.

**Ліпск**

„Okno na Lunapark'' (włoski), „Piekło i niebo'' (polski), 19—20.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ДАЧНІКІ

Прыбегла да мяне на адвячорак Мітрафанава Паўліна. Не паспела пераступіць цераз парог, а ўжо пытае: — Вы бачылі, суседачка, колькі да Вінцука Крывалупкі дачнікаў наехала?! Сын з жонкаю і з дзяцьмі! А дачка з зяцем прыехалі ўласнаю таксоўкаю.

— А што ж у гэтым дзіўнага? Як то людзі кажуць — ад прыбытку галава не баліць... А Вінцуковы дзеткі вельмі добры даюць прыклад для другіх...

— А які ж яны даюць прыклад?...

— Бачыце, Паўліна, прыехалі ў вёску акурат у жніво. Памогуць для Крывалупкі і ўсё жытка раз два з поля спрацуць.

— Ой вы кажаце, памогуць! Яны ўжо трэці дзень тут, але якось у поле не выбіраюцца. Я ўчора бачыла, як Вінцук стаяў з помпкаю ракам і пампаваў баляновае кола... Пот з яго цюрком капаў. А яго сын з зяцем у кароценькіх штоніках павыцягваліся на прыгуменю каля стадолы і пад дзікаю грушай чыталі газеты. На мяне мой Мітрафан крычаў: навошта мяшацца ў чужыя справы! Але я, дальбо, не вытрпела... Падышла і гавару: — Памаглі б, хлопчыкі, напампаваць балён для бацькі?!

А сын Вінцука як адрэзаў мне, то аж у галаве закрунула!.. Кажа: — А што вы не ведаеце, што мы прыехалі на адпачынак!

І нават з месца не рушыўся... Вось якая дапамога ў прыклад!..

— Што ж, Паўліна, няма што дзівавацца гэтаму, бо ўсякія бываюць людзі. А бацькі цешацца, што хоць да іх дзеткі на дачу прыехалі...

— А вядома што цешацца... О яшчэ як ганарацца. Крывалупка хутчэй вывалак з клуні балён, каб зяць меў дзе таксоўку паставіць. А Параска ад першага дня перастала малако да злеўні насіць. Гаварыла: — У мяне на свежую смятанку, сыр, масла і кіслае малако ёсць цяпер свае госцікі!..

— А што, бачыце, і маці цешыцца...

— О яшчэ як цешыцца, што мае такую прыгожую дачку і нявестку. А яны, быццам ім ужо сонейка ў вочы рэжа, панакладалі цёмныя акуляры, павыпінаюць голыя зады, усяроўна як тыя кабылы, і ляжаць каля сваіх мужыкоў... Распалююцца... А не бачаць, што ў маткі горб расце ад работы.

— Пачакай, Паўліна. А як твая Любка, яна тожа прыехала. А многа табе памагае?

—Бачыш, Мальвінка, мая дачка — то зусім што другое... Яна навучылася за настаўніцу, то ёй ужо і не пасуе тырацць разам з намі. А й людзі ў вёсцы зараз пачалі бы гаварыць: — Э, такая з яе будзе й настаўніца, калі ідзе ў поле да работы... А так няхай лепш яна глядзіць сваіх кніжак.

— Бач, мая дарагенькая, таксама і ў Крывалупкі, сын інжынерам, а зяць дохтар...

— О! Але яны прыехалі на дачу!..

— А твая Любачка на адпачынак...

**Цётка Мальвіна**

# НІЎКА



— Дзядзя, як вы ў лужыну трапілі?
— П-п-лот скончыўся.

### ПАЗНАЁМІЛІСЯ

Маладая дзяўчына смела падыйшла да пажылой кабеты, якую яна прыняла за загадчыцу бальніцы.

— Я хацела б пабачыць капітана Вільямса...

— А вы можаце сказаць, кім яму даводзіцеся?

— Вядома, я... яго сястра.

— А я — яго маці. Вельмі рада пазнаёміцца.

### АЖ ВАДА ПАЛІЛАСЯ

Грымнуў гром і пайшоў дождж. Засопшыся, у хату ўбегла маленькая Ірынка.

Яна сказала:

— На небе так стукала, так грукала, што з яго аж вада палілася.

### ДОБРАЯ РЭЧ

Пісьменнік, кнігі якога не карысталіся попытам, прыйшоў на базар.

— Глядзі, — паказаў яму сябра, — у тваю кнігу ягады загортваюць.

— Добрая рэч заўсёды служыць чалавеку.

### СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

На прыёме ў мужа і жонкі О. да пані Люлі (прозвішча і адрас вядомыя рэдакцыі) заляцаўся элегантны пан, які расказаў ёй пра сваю даваенную маёмасць, заводы і асабнякі. На развітанне пані Люля дала элегантнаму пану свой даваенны нумар тэлефона.

### ВЫЗНАЧЫЛА

Кума зайшла да кумы ў госці. Гаспадыня пачаставала яе чаем і паклала на сподак кроплю мёду.

— Вы што, пчалу купілі? — спытала госця.




**Хто пераскоквае высокі плот, той ніколі не памятае, што можа паламаць ногі.**

**Чалавек ведае, што думае, але не здагадваецца, што яму могуць прынесці думкі.**

**Жыццё — вялікая рэч, з якой не кожны ўмее абходзіцца.**

**Чалавек, які прывык гаварыць праўду, найменш робіць памылак.**

**Дарогамі, якія раніцай разыходзяцца, а вечарам збягаюцца, ходзіць шчасце.**

### ЦІ ПАДАБАЕЦЦА

— Влада, кажуць, ты ўжо ходзіш у школу?

— Хаджу.

— А ці падабаецца табе настаўніца?

— Дык яна ж у параўнанні са мною старая!

### ПРЫЗНАЎСЯ

— Ты заўсёды спазняешся, — гаворыць настаўнік вучню. — Няўжо ты не ведаеш, калі пачынаюцца ўрокі?

— Не, не ведаю, — адказвае вучань. — Калі прыду я ў школу, яны ўжо ідуць.



— Мілая, як жа гэта?!
— А я табе гаварыла: выйгрывай халадзільнік!



Сям'я ў турыстычным паходзе.

**Песні па заяўках**

Па просьбе вучаніц з ліцэя ў Бельску Падляшскім Лілі, Марысі, Валі і Гені змяшчаем песню п. з.

## Nie pukaj do moich drzwi

Słowa: Jacek Grań Muzyka: Czesław Niemen



*Mówiłeś zawsze, że mnie kochasz,*
*mówiłeś zawsze, że kochasz mnie,*
*że nigdy innej nie pokochasz,*
*że nie pokochasz innej, nie!*

*Powiedz mi zatem, czy to wiatr*
*wczoraj mi twoje serce skradł?...*
*Czy może właśnie ta,*
*o której nie wiem?...*

*A jeśli ktoś mi ciebie skradł?...*
*Chcę sama być!*

*Ty już nie pukaj do mych drzwi!*
*Niech do nich puka tylko wiatr,*
*tylko wiatr,*
*tylko wiatr.*




**Аякс-прымірыцель**

Муж і жонка з Нова-Бытома вырашылі развесціся. Спробы суддзі прымірыць іх не ўвянчаліся поспехам.

Пры раздзеле маёмасці муж і жонка завялі спрэчку, каму дастанецца іх аўчарка Аякс. Спрэчка зайшла ў тупік. Тады, не жадаючы страціць Аякса, муж і жонка памірыліся.

**Помста кліента**

Адзін кравец з Джэрсіці (ЗША) адмовіўся прыняць на пераробку дрэнна пашытыя ім касцюм. Тады разгневаны заказчык павесіў сабе на шыю плакат з надпісам: «За гэты сапсаваны Майкам Мэфі, вуліца Майнстрыт, 219, касцюм я заплаціў казачную суму — 108 долараў», — і пачаў з ім гуляць па вуліцах. Праз нейкі час кравец адшукаў кліента і папрасіў дазволу перарабіць касцюм.



**Сонца ў дамскай сумцы**

У Лондане прадаюцца мініятурныя кварцлампы, якія свабодна змяшчаюцца ў дамскай сумцы. Уладальніцы штучнага сонца цяпер загараюць нават у вагоне метро.





**Вырас без бацькоў і таму лічыў сябе самародкам.**

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024